

# Голас душы



Яднанне ў любові

№ 12 (196)
Субота, 25 сакавіка 2006 г.

Штотыднёвы хрысціянскі бюлетэнь

# 25 САКАВІКА – ЗВЕСТАВАННЕ

***25 сакавіка каталіцкі Касцёл святкуе Звеставанне Найсвяцейшай Марыі, Панны. Калісьці ў гэты час арханёл Габрыіл звеставаў Найсвяцейшай Марыі, Панне, аб тым, што Яна па волі Усявышняга стане Маці Сына Божага, Ісуса Хрыста.***

Звеставанне – гэта абвяшчэнне добрай весткі, што нарадзіцца Збаўца свету.

***"Вось Я слуга Госпада, няхай Мне стане паводле Твайго слова"*** *(Лк 1, 38).*

Звеставанне – вялікае свята. Паводле народных паданняў, у гэты дзень нават птушкі гнёздаў не ладзяць.

Птушка гнязда не ладзіць, а дзяўчына касу не пляце.

Увесь сакавік, падчас Вялікага Посту, у касцёлах адбываюцца набажэнствы разважанняў над пакутамі Ісуса Хрыста – над Яго крыжовай дарогай, песнямі жальбаў, над каронкай да міласэрнасці Божай і інш. Кожны дзень святары слухаюць споведзь вернікаў, споведзь для ўсёй сям'і: для бацькоў, дзяцей і ўнукаў.

Свята Звеставання было ўстаноўлена ў канцы V стагоддзя, а ў VII ст. адзначалася ўжо ўсім хрысціянскім светам. Калі яно прыпадала на Вялікі тыдзень, то пераносілася на панядзелак наступнай нядзелі пасля Вялікадня.

Урачыстасць Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі прыпамінае нам дзве вялікія праўды: таямніцу Ўчалавечання слова Божага і прывілей Мацярынства Найсвяцейшай Багародзіцы.

Таямніца ўчалавечання павінна ўзбуджаць у нас услаўленне непазнанай пакоры Сына Божага, які пажадаў прыняць чалавечае цела дзеля нашага збаўлення. Другая таямніца прызывае нас да моцнай веры ў заступніцтва і пасрэдніцтва Найсвяцейшай Панны, якой як сваёй Маці Хрыстос, наш Збаўца, не можа ні ў чым адмовіць. І таму мы можам да Найсвяцейшай Панны, да нашай заступніцы і берагіні звяртацца, як да сваёй маці, з нашымі просьбамі,



падмацаванымі добрым жыццём, вераю і цнатлівасцю. І Яна нам заўсёды дапаможа, суцешыць, падтрымае, выратуе.

Пасля правіны, грэхападзення першых людзей Адама і Евы, адвечная праўда Божая пасылае свайго Сына на зямлю дзеля нашага збаўлення, каб вярнуць нам права на неба, якое было страчана і замкнёна перад намі першародным грахом, грахом першых людзей.

Сын Божы, другая Асоба Тройцы Насвяцейшай, наш Збаўца Ісус Хрыстос, сапраўдны Бог і сапраўдны Чалавек, прыйшоў на свет і нарадзіўся з бязгрэшнай Панны, прымаючы на сябе чалавечае цела, не перастаючы быць Богам.

Міласэрнасць Божая ахінала і вяла чалавецтва, каб у пэўны час магла паявіцца жанчына такая святая, дасканалая, мілая Богу, якая павінна была стаць Маці Сына Божага, народжанага ў часе і ў чалавечым целе. І такой жанчынай, выбранай сярод усіх жанчын, была Найсвяцейшая Марыя, Панна.

Усявышні выбраў Яе быць Маці Сына свайго, адарыў Яе ўсімі ласкамі і прывілеямі, – інакш і не магло быць.

Немагчыма нават падумаць, што Сын Божы мог нарадзіцца ад грэшнай жанчыны. Грэшны чалавек – гэта чалавек, які знаходзіцца пад уладаю злога духа і граху. Ісус, Сын Божы, не мог ні на момант быць пад уладаю злога духа, прыняць грэшнае цела.

Прачытай, што на гэты конт гаворыць святое Евангелле паводле св. Лукі, у якім апісваецца спакушэнне Ісуса Хрыста ў пустыні (Лк 4, 1-14).

**Якой жа чыстай і велічнай з'яўляецца Найсвяцейшая Марыя, Панна, якую Усявышні выбраў быць Маці свайго Сына!**

Панна Марыя – бязгрэшная,

святая, чыстая, без заганы, захаваная ад граху – прыняла ў сваё бязвіннае ўлонне Святая Святых – Сына Божага, Які быў пачаты ад Святога Духа. Найсвяцейшая ад Усіх Святых, Панна Марыя насіла пад сваім сэрцам Ісуса, Збаўленне свету і ўсяго роду людскога. Служыла Яму ўсё жыццё, пачынаючы ад Божага Нараджэння ў Віфлііеме і да самай вяршыні цярпення – не толькі Галгофы, але і болю душы і сэрца.

Названая Маці журботнай, атрымала з ласкі Божай дар святасці і бязгрэшнасці, каб прыняць святасць Сына Божага, бо толькі святое можа нарадзіць святое.

Госпад Бог мае агіду да граху і несправядлівасці.

Вось чаму Найсвяцейшая Марыя, Панна, не проста жанчына, як заўзята гавораць пра Яе розныя сектанты і бязбожнікі, маўляў, Хрыстовай Маці не належыць аніякая пашана і ўшанаванне. Ты толькі ўдумайся ў гэтыя страшэнныя словы сектантаў, "любяць" Хрыста, а Яго Маці ненавідзяць. Ці дапусціць падобнае пра сваю зямную маці сын ці дачка, якія любяць сваіх бацькоў? Ці дазволяць, каб на іхніх вачах прыніжалі бацьку ці маці? Ці можна тады па-сапраўднаму любіць Бога і служыць Яму?

Маці Божай належыць уся пашана пасля Бога Айца і Тройцы Найсвяцейшай. Яна – Валадарка свету, бо Яна Маці Валадара Сусвету – Ісуса Хрыста, Госпада і Збаўцы нашага.

***Папросім у гэты дзень у Маці Божай Яе заступніцтва і апекі для нашых сем'яў, родных і блізкіх.***

Перапрашайма Багародзіцу за знявагі нашымі псеўдаверуючымі суайчыннікамі, якія прыніжаюць годнасць Маці Божай.

Часта маліцеся, і не толькі за сябе, сям'ю, але і за ўвесь народ, краіну. Мы ўсе ў краіне падобныя людзям на вялікім караблі, дзе трэба клапаціцца, каб увесь карабель быў спраўны, а не толькі свая каюта. Бо любая прабоіна ў любой другой частцы карабля стаановіцца пагрозаю жыццю ўсіх, хто знаходзіцца на караблі. Адзін за ўсіх і ўсе за аднаго!

Калі ў народзе бяда, няхай нават зусім далёка, ля самай мяжы, мы не заўсёды можам дапамагчы справай ці фінансамі. Але малітваю, добрым жыццём, сумленнай працай і дабрынёю – заўсёды. І ведай яшчэ: бяда не ходзіць адна.

**Маці Божая, у пакоры просім Цябе, ахіні і барані нас ад злога духа!**

*Ксёндз Уладыслаў Завальнюк*

## КАЗКІ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

# Даўжэй за вечнасць

***Госпадзе, я хачу спытацца: «Чаму Ты любіш сваіх дзяцей?» Я не хачу, каб маё пытанне здалося Табе непачцівым, але толькі нябёсам вядома, колькі болю мы Табе прычынілі. Чаму Ты цэрпіш нас?»***

Ты дорыш нам кожны ўздых, але ці дзякуем мы Табе? Ты даеш нам целы, не падобныя адно да аднаго, але ж ці праслаўляем мы Цябе? Наўрад ці.

Мы скардзімся на надвор'е. Мы сварымся з-за сваіх «цацак». Мы спрачаемся, каму дастанецца той ці іншы кантынент. Не праходзіць і хвіліны, як хтосьці дзесьці ў праклёне выкарыстоўвае Тваё Імя, стукнуўшы сябе па пальцы (як быццам бы ў гэтым была Твая віна)...

Ты напаўняеш свет ежай, а мы абвінавачваем Цябе за голад. Ты ўтрымліваеш нашу планету на яе восі і не даеш растаць ледн́ікам, а мы вінавацім Цябе ў абыякавасці. Ты дорыш нам блакітныя аблокі, а мы патрабуем дождж. Ты даеш дождж, а мы просім сонца (нібыта мы ведаем, што лепш).

Мы мацней апладыруем якому-небудзь знакамітаму футбалісту, чым Табе, Богу, Які стварыў нас. Мы больш песень узносім месяцу, чым Хрысту, Які выратаваў нас. Мы падобныя на мышку, якая сядзіць на хвасце ў слана, і ўсё ж патрабуем, каб Ты знайшоў нам месца на паркоўцы. І калі Ты не даеш нам таго, чаго мы жадаем, мы заяўляем, што Цябе проста няма (як быццам бы наша меркаванне нешта змяняе).

Мы забруджваем свет, які Ты нам даручыў. Мы няправільна карыстаемся целамі, якімі Ты адарыў нас. Мы ігнаруем Слова, якое Ты нам паслаў. Мы забілі Сына, Якім Ты стаў. Мы – распешчаныя дзеці, якія забіраюць, б'юць, шпурляюць і блюзнераць.

У Цябе ёсць усе прычыны, каб пакінуць нас. Я б так і зрабіў! Я памыў бы свае рукі, адмовіўшыся ад усёй гэтай бязладзіцы і распачаў бы ўсё спачатку дзе-небудзь на Марсе. Але як паступіў Ты?

Я бачу адказ на маё пытанне ва ўзыходзе сонца. Я чую адказ у вогплеску хвалі. Я адчуваю адказ, датыкаючыся да далікатнай скуры дзіцяці.

**Ойча, Твая любоў ніколі не скончыцца. Ніколі. Нягледзячы на тое, што мы адштурхваем Цябе, ігнаруем, не слухаем Цябе, Ты ніколі не зменішся.** Нашае зло не можа прынізіць Тваё каханне. Наша праведнасць не можа павялічыць яго. Мы не можам заслужыць яго сваёй верай. Ты не станеш любіць нас менш, калі мы ўпадзём. Ты не станеш любіць нас больш, калі мы атрымаем поспех. Твая любоў ніколі не скончыцца.

Як знайсці ёй тлумачэнне?

Магчыма, мы знойдзем адказ у іншым пытанні: **«Маці, чаму вы любіце сваіх немаўлятаў?»**

Ведаю, ведаю, гэта недарэч-

нае пытанне, але падыграйце мне, чаму?

На працягу некалькіх месяцаў гэтае дзіця прычыняла вам боль. Ён (або яна) выклікаў усе гэтыя вугры на твары, вам стала цяжэй рухацца?! З-за дзіцяці з'едзеная вячэра раніцай з млоснасцю вярталася назад. Гэтае дзіця штурхалася ў вашым жываце, займала месца, якое яму не належыла, і паглынала ежу, якую не рыхтавала.

Вы захоўвалі гэтае дзіця ў цеплыні. Вы засцерагалі яго ад небяспекі. Вы сачылі за тым, каб яно заўсёды было сытым. Ці сказала яно вам калі-небудзь дзякуй?

Жартуеце? Ледзь з'явіўшыся на свет, гэтае дзіця выдала аглушальны крык. Пакой для яго быў занадта халодным, пялюшкі занадта цвёрдымі, медсястра занадта грубай. Што ж патрабавала гэтае дзіця?

**Яно патрабавала маці.**

А вам не хочацца перадыхнуць? Я маю на ўвазе, што ўсю працу за апошнія дзевяць месяцаў рабілі вы. Можа быць, прыйшла чарга бацькі? Не, яму тут не справіцца. Дзіцяці патрэбная маці. Дзіця не папярэдзіла вас аб сваім прыходзе. Проста прыйшло. Ды яшчэ як! Проста па-варварску! Вы крычалі ад болю. Вы дзёрлі прасціны і кусалі да болю губы. Толькі паглядзіце на сябе. Спіна баліць. Галава расколваецца ад неверагоднага цяжару. Уся адзежа прасякнутая потам. Кожны мускул напружаны і расцягнуты. Напэўна, вас перапаўняе пачуццё гневу, але ці гэта так? Зусім наадварот. На вашым твары адлюстравана любоў, якая будзе працягвацца даўжэй за вечнасць. Гэтае дзіця нічога не зрабіла для вас. Тым не менш, вы любіце яго. Яно прынесла боль вашаму целу, і млоснасць раніцай, тым не менш, вы даражыце ім. Яго тварык пакрыты маршчынкамі, а вочы – заслонай, але вы толькі і гаворыце аб яго прыгажосці і яркай будучыні, якая яго чакае. Наступныя шэсць тыдняў вы будзеце прачынацца кожную ноч, але няўжо гэта мае значэнне? На вашым твары ўсё напісана. Вы проста ў замілаванні. Чаму?



Чаму маці любіць сваё немаўля? Таму што яно яе дзіця? Больш таго. Таму што гэтае дзіця – частка яе самой. Яе кроў. Яе цела. Яе мускулы і хрыбетнік. Яе надзея. Яе спадчына. І ёй усё роўна, што яно нічога ёй не дало. Яна ведае, што немаўля бездапаможнае і слабое. Яна ведае, што немаўляты не просяцца прыйсці ў гэты мір.

Бог ведае, што мы таксама не прасілі аб гэтым. Мы – Яго задума. Мы – частка Яго. Яго твар. Яго вока. Яго рукі. Яго дакрананне. Мы – гэта Ён. Угледзьцеся больш уважліва ў твар любой чалавечай асобы на зямлі, і вы ўбачыце Яго падабенства. Нягледзячы на тое, што некаторыя з нас нагадваюць толькі самых далёкіх сваякоў Бога, гэта не так. **У Бога няма пляменнікаў, у Яго ёсць толькі дзеці.**

Як гэта ні неверагодна, але мы складаем Цела Хрыста. І, нягледзячы на тое, што мы можам паступаць не так,як наш Айцец, няма большай ісціны, чым тая, што мы – Яго частка. Гэта нязменны факт. Ён любіць нас. Нішто не можа адлучыць нас ад Яго любові *(пар. Рым. 8. 38-39).*

Калі б Бог не прамовіў гэтых слоў, было б глупствам пісаць іх. Але таму, што Ён гэта сказаў, глупства – не верыць Яму. Нішто не можа адлучыць нас ад Божай любові, аднак як цяжка некаторым зразумець гэтую ісціну.

Ты думаеш, што ўчыніў такі грэх, які пазбавіў цябе Ягонай любові? Здрада. Парушанае абяцанне. Думаеш, калі б ты гэтага не зрабіў, Ён любіў бы цябе больш? Думаеш, калі ты будзеш лепшы, Ён будзе любіць цябе мацней? Калі ты будзеш больш праведным, Яго любоў стане глыбейшай?

Не, не і яшчэ раз не.

**Божая любоў не падобная да чалавечай. Яго любоў выходзіць за межы агульнапрынятага. Яго любоў бачыць твой грэх і працягвае любіць цябе. Ці ўхваляе Ён твой учынак? Не. Ці трэба табе павініцца? Так.**

Але для каго табе трэба гэта зрабіць? Для Яго ці для сябе? Яму не мае патрэбы ў тваіх выбачэннях і апраўданнях. Ён будзе заўсёды любіць цябе гэтак жа моцна, не больш і не менш, чым цяпер.

*Макс Лукадо*

# ПАДЗЯКА

*Выразы ўдзячнасці, якія выплываюць з глыбіні сэрца, прагнем скласці годнаму пашаны **Ксяндзу-магістру Уладыславу Завальнюку**, пробашчу парафіі св. Сымона і св. Алены, а таксама **шаноўным Парафіянам** за Вашыя адкрытыя сэрцы і праўдзівую хрысціянскую міласэрнасць і салідарнасць.*

*Дзякуючы Вашай падтрымцы і дапамозе падыходзіць да канца пабудова парафіяльнага дому, так патрэбнага для катэхетычных і душпастырскіх мэтаў.*

*Абяцаем удзячную памяць у малітве за Вас, дарагія Мінчане.*

*Ксёндз-пробашч Ежы Ноцунь*
*і Парафіяне з Варапаева*

# ДЗІЦЯЧАЯ СТАРОНКА

***«Лепш нямногае з праўдаю, чым мноства набыткаў з няпраўдаю. Сэрца чалавека абдумвае свой шлях, але Госпад кіруе шэсцем яго» (Прыт 16, 8-9).***

Карціну, якую ты, ***мой дарагі дружа***, бачыш сёння на гэтай старонцы, можна назваць: **«Наш Бог паклапоціцца пра нас».**

Гэты дзядуля з маленькай дзяўчынкай і сабачкай, як відаць, прайшоў доўгі шлях. Ён мае даволі цяжкі груз: два мяшкі і кошык. Можа быць, гэтым вандроўнікам няма дзе жыць? Куды ж яны зараз ідуць?



Гэты старэнькі дзядуля быў некалі маладым чалавекам, які хацеў у сваім жыцці дасягнуць вельмі многага. Але ён не надаваў належнай увагі малітве, мала маліўся і не спытаў у свой час у Бога, якую прафесію яму абраць. Цяпер ён стаў старэнькім і вельмі стаміўся ад жыццёвых няўзгод. Тут, у падножжа крыжа, ён задрамаў. І яму прысніў-ся сон пра далёкае мінулае...

Маладым жыццярадасным чалавекам прыйшоў ён да бацькі і сказаў:

– Тата, парадуйся за мяне, я паступіў ва універсітэт. Я буду юрыстам! Нарэшце ж я знайшоў сваё шчасце!

– Вельмі добра, сын мой, – адказаў бацька, – значыць, ты жадаеш цяпер старанна вучыцца. Ну, а што потым?

– Праз пяць год я абараню на выдатна дыплом і скончу універсітэт.

– І што ж далей? – не адыходзіў бацька.

– Потым я буду з усіх сіл працаваць, каб як мага хутчэй стаць самастойным адвакатам.

– А далей?

– Потым я ажанюся, ствару сваю сям'ю, буду гадаваць і выхоўваць дзяцей, дапамагу ім вывучыцца і атрымаць добрую прафесію.

– А далей?

– Потым я пайду на заслужаны адпачынак, буду радавацца шчасцю сваіх дзяцей і буду мець добрую старасць.

– Што ж будзе потым?

– Потым? – Юнак на хвіліну задумаўся. – Так, вечна ніхто на гэтай зямлі не жыве. Потым мне трэба будзе, мусіць, як і ўсім людзям, памерці.

– **А што потым? – спытаў стары бацька, які ад усяго сэрца любіў Езуса. Ён узяў сына за рукі, паглядзеў яму ў вочы. Дарагі сын, што ж будзе потым? – дрыготкім голасам прагаварыў бацька.**

Сын яшчэ больш задумаўся і няўпэўнена прамовіў:

– Дзякую табе, тата. Я зразумеў. **Я забыў галоўнае... Мне трэба рыхтавацца да вечнага жыцця.** Але ад сённяшняга дня я буду памятаць аб гэтым.

Праз некаторы час гэты чалавек стаў знакамітым адвакатам, але потым, на жаль, усё ў жыцці страціў. Толькі веру ў Бога ніхто ў яго не змог адабраць.

Біблія нагадвае нам: «Сэрца чалавека абдумвае свой шлях, але Госпад кіруе шэсцем яго». Як добра, што Бог ведае наш шлях, таму нашае сэрца спакойнае і раднасае.

**Маліся, каб і цябе Езус Хрыстус праводзіў вузкім шляхам у Сваё Нябеснае Валадарства.**

*Твая Надзейка*

# ТВОРЧАСЦЬ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

Знямог. Упаў. Ляжу каля дарогі.
Ліецца з сэрца горкіх слёз ручэй.
О, Маці Божая Нястомнай Дапамогі,
Прыдзі хутчэй!

Скарэў ад пылу плашч. Сандалі ў дзірках.
Пякучка-соль іскрыцца на спіне.
Драпежны звер з начнога лесу гыркаў,
Бег і кусаў мяне.

Усё сцярплю. Узняўшыся з каленяў,
О, Маці, да Цябе пакрочу зноў.
Ты ўся саткана з сонечных праменняў.
Ты ўся – Любоў!

Гарыць святы агонь за небакраем.
У тым агні твая сляза дрыжыць.
На пласе вечнасці мы ўсе там паміраем,
Каб жыць.

*Леанід Дайнека*



# СЛОВА БОЖАЕ Ў НЯДЗЕЛЮ

## 26 САКАВІКА

## ЧЫТАННЕ ДРУГОЙ КНІГІ КРОНІКАЎ

*(2 Кр 36, 14-16. 19-23)*

У тыя дні:

Усе кіраўнікі святароў і народу памнажалі беззаконне сваё, ідучы следам за ўсёй агідай язычнікаў, і зняславілі дом Госпада, які Ён асвяціў у Ерусаліме. Госпад, Бог айцоў іхніх, пасылаў штодня праз пасланцоў сваіх, устаючы рана, перасцярогі, бо шкадаваў народ свой і жыллё сваё. Але яны здзекаваліся з пасланцоў Бога, і пагарджалі словамі Ягонымі, і насміхаліся з прарокаў Ягоных, пакуль не ўзняўся гнеў Госпада на Ягоны народ і не было больш ніякага ратунку.

І падпалілі ворагі дом Божы, і разбурылі мур Ерусаліма, і спалілі ўсе ўмацаванні агнём, а ўсё, што было каштоўнае, знішчылі. Тых жа, хто пазбегнуў мяча, павялі ўВавілон, дзе яны сталі слугамі караля і сыноў ягоных, пакуль не пачаў валадарыць кароль персідскі, каб споўнілася слова Госпада, сказанае вуснамі Ераміі: «Пакуль зямля не нацешыцца суботамі сваімі, ва ўсе дні спусташэння свайго будзе святкаваць шабат на працягу сямідзесяці гадоў».

У першы год валадарання караля персаў Кіра – каб споўнілася слова Госпада,сказанае вуснамі Ераміі, – Госпад абудзіў дух Кіра, караля персаў, які загадаў абвясціць ва ўсім валадарстве сваім пісьмова і вусна, кажучы:

"Так кажа Кір, кароль персаў: «Усе валадарствы зямныя даў мне Госпад, Бог нябёсаў, і Ён наказаў мне пабудаваць Яму дом у Ерусаліме, што ў Юдэі. Хто з вас паходзіць з народу Ягонага, няхай ён ідзе туды, а Госпад Бог ягоны няхай будзе з ім».

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

## ПСАЛЬМ

*(Пс 137 (136), 1-2. 3. 4-5. 6 Р.: 6)*

***Рэфрэн: Узніму Ерусалім на вяршыню маёй радасці***

Над рэкамі Вавілона сядзелі мы і плакалі, *
калі ўспаміналі пра Сіён.
На вербах пасярод яго *
павесілі мы нашыя арфы.

***Рэфрэн.***

Бо тыя, хто ўзяў нас у палон, *
патрабавалі ад нас песняў,
а прыгнятальнікі нашыя – вяселля: *
Заспявайце нам адну з песень Сіёну.

***Рэфрэн.***

Як жа нам спяваць песні Госпада *
на чужой зямлі?
Калі забуду цябе, Ерусалім, *
няхай адсохне мая правіца.

***Рэфрэн: Узніму Ерусалім на вяршыню маёй радасці***

Няхай прыліпне язык мой да майго паднябення, *
калі не буду памятаць пра цябе,
калі не ўзніму Ерусалім *
на вяршыню маёй радасці.

***Рэфрэн.***

## ПАСЛАННЕ СВЯТОГА АПОСТАЛА ПАЎЛА ДА ЭФЕСЦАЎ

*(Эф 2, 4-10)*

Бог, будучы багатым на міласэрнасць, у сваёй вялікай любові палюбіў нас, і нас, мёртвых з-за грахоў, ажывіў разам з Хрыстом. Вы збаўлены ласкаю. Ён уваскрасіў і пасадзіў нас на нябёсах у Хрысце Езусе, каб паказаць у наступных вяках нязмернае багацце сваёй ласкі праз дабрыню да нас у Хрысце Езусе.

Бо ласкаю вы збаўлены праз веру. І гэта не ад вас, гэта Божы дар. І не ад учынкаў, каб ніхто не хваліўся. Бо мы – Яго справа, створаныя ў Хрысце Езусе для добрых учынкаў, якія Бог загадзя падрыхтаваў, каб мы ў іх жылі.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Пану Богу.

***Хвала Табе, Валадар вякоў!***

Так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага;
кожны, хто верыць у Яго, мае жыццё вечнае.

***Хвала Табе, Валадар вякоў!***

## ЧЫТАННЕ СВЯТОГА ЕВАНГЕЛЛЯ ПАВОДЛЕ ЯНА

*(Ян 3, 14-21)*

Як Майсей узняў змяю ў пустыні, так мае быць патрэба, каб узняты быў Сын Чалавечы. Каб кожны, хто ў Яго верыць, меў жыццё вечнае. Бо так Бог палюбіў свет, што даў Сына Свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, а меў жыццё вечнае. Бо паслаў Бог Сына Свайго на свет не для таго, каб судзіў свет, а для таго, каб свет быў збаўлены праз Яго. Хто верыць у Яго, не падлягае асуджэнню; а хто не верыць, той ужо асуджаны, бо не ўвераваў у Імя Адзінароднага Сына Божага.

А суд зыходзіць з таго, што святло прыйшло на свет, але людзі палюбілі цемру больш за святло, бо благія былі ўчынкі іх. Бо кожны, хто робіць благое, ненавідзіць святло і не ідзе да святла, каб не былі асуджаныя ягоныя ўчынкі. Хто выконвае патрабаванні праўды, той ідзе да святла, каб бачныя былі ягоныя ўчынкі, бо яны ў Богу зроблены".

***Лектар:*** Гэта слова Пана.
***Усе:*** Хвала Табе, Хрысце.

# КНИГА «КОД ДАВИНЧИ» – ЭТО ЦИНИЧНЫЙ ПАСКВИЛЬ НА ИИСУСА ХРИСТА И ХРИСТИАНСТВО

***Пусть пробудится их совесть, пусть уберегут они детей своих и род свой, чтобы не повторить страшной ошибки фарисеев, распинавших Христа.*** *(Продолжение, начало в №11)*

Обращаюсь к тем, кто уже прочитал книгу «Код да Винчи» Дэна Брауна, задумайтесь над содержанием этой книги, подумайте, несет ли она человеку хоть малую толику добра, любви и пользы? Заданием этой книги, как и предыдущих ей подобных является расшатывание и зомбирование умов и сердец молодых людей, формирование у них отрицательного отношения к Христовой Церкви и самому Иисусу Христу Сыну Божьему. Это хитрый сатанинский подход к сегодняшним людям ничуть не отличается от райского искусительного подхода к Еве. Читайте, мол, эту книгу, ничего с вами не случится, зато будете знать все. Так, в свое время, в раю сатана искушал Еву вкусить запретный плод от дерева познания добра и зла. Ничего с вами не случится, вы будете как боги и знать будете все. И что не поняли, не узнали? Еще как! Мы по сегодняшний день испытываем на себе это сатанинское клеймо познания добра и зла.

**Достопочтенные люди, уважаемая молодежь! Укрепляйте свою веру в Господа чтением Библии, изучением истории Церкви и Жизни христианских святых,** в которых на протяжении двух тысяч лет люди находили и находят ответ на многие, волнующие их вопросы, где сказано об Иисусе Христе, взявшем на себя грехи человечества: «Ибо не знавшего греха Он сделал для нас жертвою за грех, чтобы мы в Нем сделались праведными перед Богом» *(2 Кор 5-21).*

Все, кто читал эту книгу или держит ее дома – побыстрее направляйтесь к святой исповеди и покаянию. Не рекомендую держать эту книгу дома, так как даже само оформление книги испаряет зловоние ада и яд сатаны. Обложка этой книги – это не что иное, как символ сатанистов, у которых нет лица, не говоря уже о душе, только маска, а за маской кроется не человеческое лицо, а череп трупа.

Книга, ее оформление и клеветническое содержание несет в себе зловещую энергетику, которая отрицательно воздействует на всех присутствующих в доме, в рабочем коллективе, в любом месте, где бы она ни находилась.

Уже есть высказывания людей, которые утверждают, что, подержав несколько минут в руках эту зловещую книгу, они ощущали жар в лице, чувство беспокойства, головную боль. Молодые люди, которые видели эту книгу в магазине на прилавке, даже побоялись брать ее в руки. Не то, чтобы принести ее на квартиру под крышу дома своего, и воспринимают ее, как что-то явно сатанинское.




Как вы думаете: если человек носиться с черепом под мышкой или держит его возле кровати на столике, не говоря уже вблизи икон – это нормально? Все, кого я ни спрашивал, показав только обложку – оформление книги, сразу говорили, что она оказывает неприятное, тягостное, нечистое воздействие, связанное с нечистой силой. Одним словом, вся книга наполнена дьявольскими знаками и дурным влиянием на тех, кто к ней прикасается, не говоря уже о том, что читает. Да, действительно, в книге Код да Винчи скрывается сатанинский код далекого, на первый взгляд невинного-безвредного, зомбирования с далеким временным прицелом, который со временем сработает как спящая инфекция, как первый другой укол наркотика и погубит всего человека.

«Однажды дочь принесла эту книгу домой, – рассказывает верующая мать, – я перепугалась от увиденного на ней сатанинского изображения и постоянно с молитвой клала на книгу святую икону с мольбой: «Господи Праведный, убереги моих детей и семью от сатанинского несчастья!»

Другая женщина, которая приняла в свое сердце Иисуса Христа как своего Господа и Спасителя, не читавшая и не видевшая этой книги, только от одних разговоров о ней ощутила сильную боль в сердце, и только большая вера в Господа и молитва уняли эту боль.

Каждый здравомыслящий человек, будь то христианин, мусульманин, правоверный еврей, рациональный буддист или просто материалист, увидев эту книгу, ее обложку, на которой крупным планом взят череп с хитро улыбающейся маской, с презрительным взглядом и с пустыми глазницами, череп, как бы подымающийся из гроба, скажет, что здесь присутствует сатанинский почерк, враждебно настроенный по отношению к Иисусу Христу, Его святой

# УВАГА! ЗВАРОТ СВЯТАРА

Церкви и возвышенной, чистой морали верующих всех конфессий и вероисповеданий земного шара. И так распространяя по всему миру эту сатанинскую книгу миллионными тиражами сатанисты и враждебно настроенные слуги сатаны сеют свой посев среди народов мира, как бы посвящая всех, кто согласится и прикаснется к этому сатанинскому яду. Сатанисты, они же слуги сатаны, открыто стараются посвятить весь мир и все человечество князю тьмы. А перед ними только одна-единственная преграда – это Христова Церковь и Божья благодать. Поэтому постоянно льется столько скверны, лжи и гонений на Иисуса Христа и Его святую Церковь.

***«Бодрствуйте, стойте в вере, будьте мужественны, тверды»*** *(1 Кор 16, 13).*

«Как Ианний и Иамврий противились Мойсею, так и сии противятся истине, люди, развращенные умом, невежды в вере» *(2 Тим. 3, 8).*

**Предостережение по поводу существования этой книги**

**Осторожно – сатана!**

**Приобретая эту книгу, задумайся, с кем ты, с Господом или с сатаной?!**

Во 2-ом Послании к Коринфианам *(2 Кор 5, 10)* сказано: «Ибо всем нам должно явиться перед судилище Христово, чтобы каждому получить соответственно тому, что он делал, живя в теле, доброе или злое». Этому журналисту уже ничего не поможет – он прочно увяз в дьявольской паутине лжи, греха и клеветы. Он полностью обольщен тридцатью серебренниками, так как и в будущем задумал очернять Господа нашего Иисуса Христа, Пресвятую Деву Марию и христианство, предприняв попытку издания следующих книг с сатанинскими ядовитыми приправами, греховно действующими на души людские. Не осквернил бы он в своей книге «Код да Винчи» Иисуса Христа и святую Марию Магдалену, христианство – никто бы о его книге и не знал, «даже в родной его деревне». А здесь, в данном случае, весь мир как бы ожидал и искал этакой пищи. Тогда напрашивается довольно-таки риторический вопрос, **что сегодня представляет собой весь мир? Какими моральными ценностями и принципами движим? Какие идеалы преследует? Чем живет и что является его духовной и интеллектуальной подпиткой?**

По содержанию книги и по пожеланию читателей, пропоганде, раскрутке в средствах массовой информации, кино, на телевидении можно судить, на каком высоком или низком моральном уровне находится человечество в наше время. Эта книга пронзила человечество, подобно копью римлянина, пронзившего Тело и Сердце Иисуса Христа на Голгофе.

Обращаюсь ко всем христианам, верующим всех конфессий и вероисповеданий всего мира: **"Давайте объединим в молитве и доброй воле все наши духовные усилия в противостоянии расползанию, многомиллионному тиражированию сатанинского зла! Родители, люди! Произнесите смело свое веское слово в защиту детей, молодежи!** Оградите их от порочных и растлевающих лжеучителей, которые своими лжеопусами ведут поколение к распущенной эгоистичной жизни, финалом которой бывает курение, наркотическая зависимомть, алкоголизм, неизлечимые болезни XX века, тюрьма, разбитые семьи, суициды, воинствующий терроризм, бессмысленные войны. Ветхозаветный псалмист, царь Давид, молит Бога: **«Господи, не погуби души моей с грешниками и жизни моей с кровожадными»** (Пс 25, 9).

В следующих номерах проанализируем задачи, которые ставил автор, "изобретая" данную книгу.

*Кандидат исторических наук ксендз, магистр теологии, человек года 2000 Владислав Завальнюк настоятель храма святого Симона и святой Елены г. Минск 2006 г.*

# НАВІНЫ

***Ватыкан заклікае сусветную супольнасць памятаць аб важнасці аказання дапамогі сусветнай сельскай гаспадарцы, а таксама людзям, занятым у гэтай сферы.***

На пачатку сакавіка архібіскуп Януш *Балонэк*, Апостальскі нунцый ва Уругваі, заявіў удзельнікам канферэнцыі ААН па праблемах аграрнай рэформы і раз-віцці сельскіх раёнаў, што нель-га ставіцца да сусветнай сель- скай гаспадаркі як да «прадмету другараднага значэння». Прэлат падкрэсліў, што варта гарантаваць людзям, занятым у гэтай сферы, магчымасць эканамічнага і сацыяльнага развіцця. Канферэнцыя, была арганізаваная Харчовай і сельскагаспадарчай арганізацыяй ААН (*ФАО*).



Архібіскуп адзначыў, што тэмы, закранутыя на канферэнцыі, «вельмі важныя для ўсяго чалавецтва і ўпрост закранаюць Каталіцкі Касцёл, які закліканы аказваць дапамогу людзям ва ўсіх акалічнасцях». Ён таксама падкрэсліў неабходнасць «надання новага імпульсу міжнароднай супольнасці, неабходнаму для супрацьстаяння цяжкасцям, што стаяць на шляху развіцця людзей».

*Заканчэнее на стар. 9*

# ЯН ПАВЕЛ II. «UT UNUM SINT» ЭНЦЫКЛІКА ПРА ЭКУМЕНІЧНУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ

***У 1995 г. была абвешчана гістарычная энцыкліка Вялікага Папы «Ut unum sint», прысвечаная экуменічнай дзейнасці Касцёла, кароткі пераказ зместу якой прапануецца вашай увазе.***

*(Заканчэнне. Пачатак у №4)*

### Камунія — абавязковая ўмова адзінства

Існуе патрэба, каб «поўная камунія, найвышэйшай сакраментальнай праяваю якой з'яўляецца Эўхарыстыя, бачным чынам выяўлялася ў служэнні, у якім усе біскупы будуць адчуваць сябе аб'яднанымі з Хрыстом, а ўсе вернікі знойдуць умацаванне сваёй веры». Функцыя апостала Пятра павінна трываць у Касцёле, каб, застаючыся пад кіраўніцтвам свайго адзінага Галавы, якім з'яўляецца Езус Хрыстус, ён быў у свеце бачнай камуніяй усіх Яго вучняў.

### Поўнае адзінства і евангелізацыя

«Экуменічны рух нашага стагоддзя больш, чым экуменічныя ініцыятывы мінулых стагоддзяў (...), адрозніваецца сваёй місіянерскай накіраванасцю. (...) Відавочна, што падзел хрысціянаў супярэчыць праўдзе, абвяшчэнне якой з'яўляецца іх місіяй, і тым самым наносіць сур'ёзную шкоду іх сведчанню». Таму мы мусім змагацца з цяжкасцямі, якія з'яўляюцца вынікам падзелаў. Экуменічнае імкненне для Яна Паўла II – гэта «адзін з прыярытэтаў» яго служэння як Біскупа Рыму, паколькі ён разумее, якою вялікаю перашкодаю для абвяшчэння Евангелля з'яўляецца падзел.

### Заахвочанне

У заканчэнні Ян Павел II цытуе апостальскі ліст *«Tertio millennio adveniente»*, у якім ён заклікаў біскупаў, духавенства і вернікаў Каталіцкага Касцёла верна ўвасабляць вучэнне II Ватыканскага Сабора ў жыцці кожнага чалавека і ўсяго Касцёла. У сувязі з гэтым Папа жадае нагадаць вернікам пра важнасць, якую надаў Сабор пытанням аднаўлення адзінства хрысціянаў, а таксама асноўныя прынцыпы экуменізму. Так, Святы Айцец піша: «Два Кодэксы Кананічнага Права залічваюць да абавязкаў біскупаў умацаванне адзінства ўсіх хрысціянаў: яны павінны падтрымліваць усе дзеянні і ініцыятывы, якія служаць гэтай мэце, кіруючыся ўсведамленнем таго, што Касцёл мае такі абавязак па волі самога Хрыста. (...) Усе вернікі, адказваючы на заклік Духа Божага, павінны рабіць усё, што ў іх сілах, каб повязі адзінства паміж усімі хрысціянамі ўмацоўваліся і каб пашыралася супрацоўніцтва вучняў Хрыста (...)».



Імкнуцца да адзінства належыць праз малітву, якая «павінна мець першынство на шляху да новага тысячагоддзя, што мы распачынаем разам з іншымі хрысціянамі», праз падзяку, праз «надзею ў Духу».

«Я, Ян Павел II, пакорны слуга слугаў Божых, асмельваюся прамаўляць да вас, верныя Каталіцкага Касцёла, і да вас, браты і сёстры з іншых Цэркваў і царкоўных Супольнасцяў, словамі апостала Паўла, мучаніцтва якога разам з мучаніцтвам апостала Пятра аздобіла Рымскую Сталіцу бляскам яго сведчання: «**будзьце дасканалымі, суцяшайцеся, будзьце аднадумцамі, жывіце ў супакоі, і Бог любові і міру будзе з вамі! (...) Ласка Пана Езуса Хрыста і любоў Бога, і еднасць Духа Святога з усімі вамі“ (2 Кар 13, 11.13)».**

*Catholic.by*

---

*Заканчэнее, пачатак на стар. 8*

Прэлат асабліва адзначыў, што нельга дапусціць, каб сусветная сельская гаспадарка стала «прадметам другараднага значэння або нават забыта».

«Нягледзячы на ініцыятывы, якія арганізуюцца ў розных краінах свету і накіраваныя на паляпшэнне становішча асоб, занятых у сферы сельскай гаспадаркі, мільёны людзей усё яшчэ чакаюць вынікаў. Адной з чыннікаў падобнай сітуацыі з'яўляецца некаторы адрыў гэтых праграм ад цеснай сувязі з традыцыйнымі структурамі, маральнымі каштоўнасцямі і самастойнымі здольнасцямі людзей і супольнасцей», – адзначыў Апостальскі нунцый.

«Сельскія жыхары, якія часта жывуць ва ўмовах галечы і эксплуатацыі, не маюць вольнага доступу да рынку, а іх асноўныя правы і патрэбы не задавальняюцца. Менавіта таму асноўны ўпор у праграмах дапамогі сельскай гаспадарцы варта зрабіць на аказанні дапамогі беззямельным сялянам і дробным зямельным уласнікам», – падагульніў архібіскуп *Балонэк*.

*Agnuz*

# З ГІСТОРЫІ САНКТУАРЫЯ МАЦІ БОЖАЙ БРАСЛАЎСКАЙ, ВАЛАДАРКІ АЗЁРАЎ

***У першых нумарах за 2006 год мы пісалі аб прэзентацыі зборніка “Ксты” Рыгора Барадуліна ў Міёрах і Браславе і абяцалі больш падрабязна расказаць аб гісторыі браслаўскіх святынь – абраза Маці Божай Браслаўскай і касцёла. Сёння мы друкуем звесткі, прадстаўленыя Браслаўскім музеем.***

### З казання архімандрыта Браслаўскага манастыра Геранiма Нярэзія пры цудадзейным абразе Маці Божай, 1781 год

«...Ад нас жа Марыя хоча толькі адной узнагароды – адданасці Ёй, каб мы, жадаючы Яе, як Каралеву ў Небе, памяталі, што Яна, як кахаючая Маці, застаецца сярод нас на зямлі. У гэтым уласна сам перакана765ны св. Бернард. Да ўсіх астатніх узывае: «У якім бы ты не быў становішчы, якая не ўзнікла патрэба, ці няшчасці ўсім цяжарам сваім зваліліся, ці непрыяцеляў зграі з усіх бакоў апанавалі, ці якія спакусы перашкаджаюць унутранаму спакою, звяртайся толькі да Марыі: «Voka Mariam». Калі цябе спакушаюць розныя сумненні, або мноства нечысці ўстрашае, ці суровасць Кары Божай у роспач уводзіць, Cogita Mariam. Адным словам: пры ўсіх здарэннях і няшчасцях, пакутах і беднасці: Cogita Mariam, Voka Mariam. Працягнуць нам сваю выратавальную руку ва ўсіх нашых патрэбах і прыцясненнях – гэта галоўная справа Яе пасрэдніцтва паміж Богам і людзьмі.

Дзівіліся мы не аднойчы, задумваліся над тым, чаму так бывае, што калі на іншых нападае немач, сціскаюць хваробы, мы застаемся здаровымі, калі іншых сушаць недахопы,іншых душаць заразы, іншых пошасць знішчае, нас гэта не кранае. Таксама, калі адным выпадае неўраджай, у другіх пажар дашчэнту нішчыць маёмасць, мы застаемся шчаслівымі. Адкуль гэта? Узнімаем свае вочы на трон пасрэдніцтва Марыі і бачым Яе Мацярынскую правую руку, якая нас пры падзенні падтрымлівае, ад непрыяцеля засцерагае, ад няшчасцяў засланяе, справядлівую помсту і кару Усявышняга стрымлівае, засланяе нас поўным літасці ўлоннем.

З гэтай прычыны св. Бернард набраўся смеласці ўсім даваляць уст-



рымацца ад Яе ўслаўлення, калі хто ў сваіх патрэбах ніякай не спазнаў дапамогі: *Sileat tuam misericordiam, si quis, qui Te invocatam fuis in necefitatibus fibi meninerit defuiffe* і такім чынам дае магчымасць спазнаць, што няма ва ўсім Хрысціянстве такога чалавека, які ў сваім жыцці не паспытаў наступстваў пасрэдніцтва Марыі паміж сабой і Богам, хаця вельмі часта ён гэтага не адчуў і аб гэтым не даведаўся. Насамрэч. Хто ў бурлівым моры стрымлівае хвалі? Хто ў час смяротнай бойкі адводзіць у бок стрэлы і ядры? Хто пры цяжкіх хваробах без лекарскага мастацтва часта вяртае здароўе? *Omnia nos Deus volnit habere per Mariam,* заканчвае св.Бернард. Усе свае ласкі для нас Бог засведчвае дзеля Марыі і праз Марыю.

Ці звернем мы болей увагі на акалічнасць смерці Дзевы Марыі, ці задумаемся над абставінамі Яе ўспення, узнікае пытанне, што, калі аб Яе ўзвышэнні над усімі дачкамі Ізраілевымі не даведаліся б, хто ва ўсім свеце падлягае праклёну смерці, быць не можа, каб пры развітанні Душы сваёй з целам не спазнаў тых страхаў, якія яму перашкаджалі і не адолеў тых хвароб, якія яго апанавалі. Але што датычыцца Дзевы Марыі, Яна, як мы бачылі, ад згаданых наступстваў смерці была пазбаўлена. А таму хіба вы не прызнаеце таго, што Яна ў час свайго ўходу не памерла, толькі спачыўшы целам сваім, пераняслася на Неба? Такім цудоўным прывілеем не надзяляў Бог нікога іншага. Але ці не годна гэта абранай Улюбёнай Яго? *Veni Spoufa mea.* Як жа пасля такой салодкай смерці не будзем Ёй пакланяцца? Пакладзенае ў труну Яе цела было вынята без ніякіх прыкметаў смерці, якая нявечыць і ў попел рассыпае асіpацелыя набыткі найсвяцейшых душаў. Калі ж Яна, уваскрасаючая, выходзіла з палону труны, адразу атрымала хвалу Свайго ўзвышэння, якая ўсе іншыя ўваскрсшыя целы чакае. А калі з услаўленнем узята была на Неба, там заняла трон пасрэдніцтва паміж Богам і людзьмі. Чуе Марыя ў салодкай смерці сваёй, як найчысцейшая Улюбёніца Бога, у хвалебным Успенні, як клапатлівая Маці Збавіцеля, з вуснаў Божых гэтыя словы: *Veni Spoufa mea, veni copona-beris.* А нам жа належыць, нягледзячы на розныя прычыны захап- ленне, шанаванне і давер выказваць непараўнальнай Маці Сына Божага. Амэн».

*Ала Неверовіч*

# ЦЕНА ВЕРЫ И МОЛИТВЫ

*Продолжение, начало в №10*

Американские учёные утверждают, что молитвы идут на пользу человеческому организму, оказывают большую помощь людям, страдающим от повышенного кровяного давления и сахарного диабета. Через несколько минут после начала молитвы у этих людей было зафиксировано снижение уровня холестерина в крови, происходила нормализация обменных процессов. Молиться полезно тем и за тех, кто впадает в депрессию. **Вообще «духовное начало» положительно сказывается на здоровье людей.** Это выражается в том, что молящийся сосредоточен на общении с Богом, что приводит к нормализации многих процессов в организме человека. Доказано, что верующие, посещающие храм, живут в среднем на 14 лет больше, чем те, кто не ходит в него или посещает редко. Верующий человек духовен, не водит дружбу с алкоголем, не раздражается напрасно, не завидует, живёт спокойно и уверен в своём завтра, и это спасает его от болезней, продлевает жизнь.

В правильности этих научных утверждений можно убедиться, проанализировав **жизнь сестёр Трацевских** из деревни Волма Дзержинского района, Минской области. Всю свою жизнь они глубоко верили в Бога, постоянно молились, даже тогда, когда костёл в Волме был закрыт; тайком ездили в другие костёлы, хотя, бывало, угрожала опасность (это было во времена атеизма).

В их доме долгое время находился молитвенный дом, где собирались верующие, и не только молились, но и могли получить конкретную помощь от сестёр добрым словом или советом. Они свято выполняли Божьи заповеди и прожили свыше 80 лет, не побывав в больнице. Умерли в разное время тихо, спокойно, не доставив никому хлопот, т.е. жили, как говорится, по-христиански, и похоронили их односельчане достойно, по-христиански. Жители деревни постоянно заказывают в костёле Святую Мессу за их души.



Подтверждение лечебного эффекта молитвы открывает людям путь к вере в Бога. Вера в Христа, как Сына Божьего, является спасением для всех людей. В верующих живёт Божественная сила, которая помогает в борьбе против зла. **Именно Божественная сила помогла в трудные минуты жизни кардиналу Казимиру Свёнтку,** который пережил 10 лет ГУЛАГа только благодаря глубокой вере и молитве. Когда ему грозил расстрел, он стал спиной к дверям и молился, глядя в окно. Получилось так, что через некоторое время стражники сбежали, местные жители проникли в тюрьму и освободили арестованных. *«Я никогда не сомневался в том, что Бог сохранит мне жизнь, и потому выжил»,* – вспоминал кардинал, рассказывая прихожанам костёла о своём прошлом.

Во время Отечественной войны фашисты сжигали многие деревни с их жителями. Они хотели сжечь Волмянский костёл и уже собрали возле него значительную часть людей. Спас от надвигающейся трагедии *местный ксёндз, который со словами молитвы обратился к фашистам*. Это на них подействовало, и они отпустили жителей деревни, а костёл уцелел. Очевидец этой истории и теперь живёт в Волме – это Уласевич Виктория.

Поэтому, если Вам трудно, подумайте, что на Вашем месте сделал бы Иисус? Несомненно, молился бы. «Христос, находясь в борении, ещё прилежнее молился». Вспомним его горячие молитвы на Оливной горе.

*Елена Голуб*

## СВЯТЫ ХРОСТ

**З радасцю паведамляем, што за апошні час Сакрамант Хросту атрымалі наступныя дзеці:**

1. Варвара Гункевіч, дачка Аляксандра і Святланы
2. Івона Паўлоўская, дачка Валянціна і Алены
3. Раман Дзямянка, сын Аляксандра і Галіны

*Божа, Ойча ўсяго жывога! Зірні ласкава на гэтае дзіцятка, якое Ты даў нам. Адары яго верай, надзеяй і любоўю, учыні, каб, узрастаючы ў ласцы і любові, заквітнела добрымі ўчынкамі і стала дзіцяткам Тваім навекі.*



## СВЯТАЯ ІМША БУДЗЕ АДСЛУЖАНА

_______ . _______ *2006г.* *у* _______ . _______ *гадзін*

*у інтэнцыі* ________________________________________________

________________________________________________

| 27 сакавіка Панядзелак | 28 сакавіка Аўторак | 29 сакавіка Серада | 30 сакавіка Чацвер | 31 сакавіка Пятніца | 1красавіка Субота | 2 красавіка Нядзеля |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 9.00 - ✞PL<br>12.00 - *<br>17.00 - ✞<br>19.00 - ✞ | 9.00 - ✞PL<br>12.00 - *<br>17.00 - *<br>19.00 - ✞ | 9.00 - * PL<br>12.00 - *<br>17.00 - ✞<br>19.00 - ✞ | 9.00 - ✞ PL<br>12.00 - *<br>17.00 - ✞<br>19.00 - ✞ | 9.00 -✞ PL<br>12.00 - *<br>17.00 - ✞<br>19.00 - * | 8.00 - ✞ PL<br>10.00 - ✞<br>12.00 - *<br>17.00 - ✞<br>19.00 -♥M | 8.00 - * PL<br>9.00 - *<br>10.00 - *IT<br>11.00 - *<br>13.00 - SPL<br>17.00 - *👪<br>19.00 - * |

✞ – Св. Імша ў інтэнцыі памерлых
* – Св. Імша ў інтэнцыі аб здароўі, Божым блаславенстве, апецы Маці Божай
S – Summa – Св. Імша ў інтэнцыі ўсёй парафіі
M – Св. Імша з удзелам парафіяльнай моладзі
PL – Св. Імша на польскай мове
👪 – Св. Імша для дзяцей
**скл.** – складковая Святая Імша
IT – Св. Імша на італьянскай мове
♥ – Св. Імша для маладых сем`яў

Штодзённа ў касцёле а 15-й гадзіне чытаецца **Каронка да Божай Міласэрнасці**
У капліцы Маці Божай Будслаўскай – **Вячыстая Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту**
Кожны дзень Вялікага посту пасля Імшы а 19.00 спяваюцца **ГОРКІЯ ЖАЛЬБЫ**

Штодзённа а 10.00 і 18.00 гадзіне адбываецца Крыжовая Дарога. Разважанні аб пакутах Езуса Хрыста падчас дарогі на Галгофу праводзяць: панядзелак – хор «Голас душы»; аўторак – суполка «Каштоўная Жамчужына»; серада – «Легіён Марыі»; чацвер – суполкі Жывога Ружанца; пятніца – міністранты; субота – парафіяльная моладзь; нядзеля – дзеці.

26 САКАВІКА - 4 НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ

# АБ`ЯВЫ

### ПАДПІСКА НА «ГОЛАС ДУШЫ»

Шаноўныя веруючыя людзі і ўсе тыя, хто цікавіцца навінамі, якія адбываюцца ў Каталіцкім Касцёле на Беларусі і ва ўсім свеце, ***заахвочваем Вас падпісацца на газету «Голас душы» ў любым паштовым аддзяленні Рэспублікі Беларусь.***

Індэкс выдання – **63135**.

Кошт падпіскі на 1 месяц – 3.170, на 3 месяцы – 9.510, на 6 месяцаў – 19.020 беларускіх рублёў.

*Рэдакцыя*

### ПРЕЗЕНТАЦЫЯ СБОРНИКА СТИХОВ

*«Чувство Высшее спонанасщает красотою...*
*Чувства чистого волна бьется*
*с черствость худою.*
*В чувстве Высшего пути пробивается нетленье...*
*Чуткость сердца освети и творись в осуществленье!»*

Приглашаю всех желающих на поэтическую встречу, посвященнуювыпуску новой книги **«Высокое касание»**.

Презентация состоится 26 марта в 14.30 в помещении концертного зала в дольном костеле.

*Анатолий Сендер*

# ІМЯНІНЫ

**27 сакавіка - св. Рупэрт -** Лідзія, Эрнэст, Ян, Бажэна, Эдыта, Яніна, Расціслаў, Венядзікт, Міхал
**28 сакавіка - св. Гунтрам -** Сыкст, Сцяпан, Сцепаніда, Жанна, Соф'я, Вацлаў, Вацлава, Агапій, Аляксандр, Дзяніс, Нікандр, Анеля, Ян
**29 сакавіка - св. Бертольд -** Еўсафія, Еўстафій, Гельмут, Ганна, Віктарына, Віктар, Аляксандр, Апанас, Трафім, Юльян
**30 сакавіка - св. Леанард -** Леанарда, Анеля, Дабрамір, Дабраміра, Амелія, Аляксей, Макар, Ян
**31 сакавіка - св. Веніамін, св. Бальбіна -** Гвідон, Карнэлія, Мікалай, Віктар, Ірына, Марыя, Карнэлій, Вікторыя, Кірыла, Трафім
**1 красавіка - св. Хугон -** Клаўдзія, Гражына, Збыслаў, Ірэна, Ірына, Фёдар, Фядора, Клаўдзій
**2 красавіка - св. Францішак, св Марыя -** Франц, Францішка, Уладыслаў, Уладыслава, Урбан, Анжэла, Францішак, Віктар, Іван, Мікіта, Ульяна, Фядосся, Аляксандра, Анатолія, Матрона, Праскоўя, Севасцьян, Сяргей

Голас душы № 12 (196) 2006. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 2178. Выдадзена міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 19 лістапада 2003 г.
Заснавальнік: грамадскае аб'яднанне «Хрысціянскае таварыства міласэрднасці». Выдаецца з верасня 2000г. на беларускай, рускай, лацінскай і польскай мовах.
Галоўны рэдактар – Кс. Уладыслаў Завальнюк, адказны рэдактар – Наталля Сундукова, вёрстка – Максім Салавей.
Адрас рэдакцыі: 220050, г. Мінск, вул. Савецкая, 15. Тэл.: (017) 200-44-15, (017) 200-56-32. Факс: (017) 200-55-61, E-mail: church_minsk@nsys.by,
www.churchminsk.by. Паштовы індэкс – 63135. Падпісана да друку 22.03.2006. Фармат 60x84 1/8. Наклад 250 асобнікаў. Заказ №